Opłata pocztowa uiszczona ryczałtem.

# БЕЛАРУСКІ ЗВОН

Радыкальная часапісь, выходзіць 4 разы ў месяц

Цана асобнага нумару 15 гр.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі Вільня, Вострабрамская 9.
Прыймо інтэрэсантаў ад 10 да 2 г. што-дня, апрача сьвятаў і нядзель.

ПАДПІСКА з дастаўкай да хаты: на 1 год 4 зл. 50, за паўгоду 2 зл. 40, за 3 месяцы 1 зл. 30, за 1 месяц — 50 гр.

Год II. | Вільня, 22 Студня 1932 г. | № 3 (28)

## Агульная павіннасьць.

Толькі-што адбыты сьпіс насяленьня ўсяе Польшчы лішні раз напомніў аб тым ненармальным, хвараблівым і ў найвышэйшай меры крыўдным для беларусаў зьявішчы, што мы зусім *ня маем дзяржаўных народных школаў у натай роднай мове* (—бо-ж тыя некалькі дзесяткоў беларускіх і „утраквістычных“ школ, якія паўсталі за апошнія гады, „беларускімі“ зьяўляюцца больш па імені, чым па зьместу...). Мы ўжо адзначалі (— ды такія-ж факты з іншых мясцовасьцяў падавала і „Бел. Крыніца“), што паны „сьпісовыя камісары запісывалі „польскую мову“ заведама беларускім дзецям—на тэй падставе, што яны вучацца ў польскіх школах. Але-ж вучацца яны ў польскіх школах *выключна затым, што беларускіх няма,* а закон аб школьным прымусе *прымушае хадзіць туды*, караючы за непаслухмянства цяжкімі грашовымі штрафамі. Дык тое, што рабілі паны камісары, толькі стаўляе ізноў перад беларускім народам і перад Польскай дзяржавай балючую, нявырашаную на дзеле справу *неабходнасьці арганізацыі беларускага народнага школьніцтва*, якая прыпынена на сем гадоў вядомым дэкрэтам п. Прэзыдэнта.

Ня будзем тут затрымлівацца, як, якімі спосабамі павінна беларускае грамадзянства дабівацца свайго. Кожная палітычная група, кожная асьветная арганізацыя пэўне-ж мае свае шляхі і свае спосабы вядзеньня гэтае акцыі і — будзе яе вясьці па-своему. Сягодня хочам ящчэ раз паставіць на від *бацьком* гэных дзяцей, штучна абвяшчаных за „польскіх“, адну іхнюю *павіннасьць*, якую яны *і абязаны, і могуць лёгка выпаўніць.*

Справа ў тым, што беларускія дзеці, вучачыся ў польскіх (або навет і ў польска-беларускіх) урадавых школах, умеюць чытаць (калі навучацца!) выключна лацінскімі літэрамі — папольску. Ані зрэформаванае беларусамі лацінікі, ані тым балей гражданкі яны зусім ня ведаюць. А ў выніку гэтага падрастаючае маладое пакаленьне *ня можа чытаць ані беларускае кніжкі, ані беларускае часопісі.* Пэўне-ж, гэта вельмі пажадана ўсім тым, хто імкнецца да поўнага вынішчэньня беларускае нацыянальнасьці. Але беларускае грамадзянства, сьведамае нацыянальна, ня мае права да гэтага дапусьціць і павінна учыніць усё, *каб кожнае беларускае дзіця ўмела чытаць і чытала беларускае друкаванае слова — ці то зьбеларушчанай лацінікай, ці гражданкай.* А найбольш зрабіць тут могуць бацькі: іх абавязак — *знайсьці ў вёсцы граматнага чалавека-беларуса, які-б навучыў іхніх дзяцей, пасыланых у польскія школы, чытаць і пісаць пабеларуску.*

*Бацькі! Споўніце гэту вашу павіннасьць і ня дайце адрываць вашых дзетак ад роднага беларускага пня*!

## Урад і „меншасьці“.

(*Новы міністар унутран. спраў аб нац. меншасьцях*).

На паседжаньні бюджэтнай камісіі Сойму 16/I новы міністар унутраных спраў Перацкі зрабіў сваё першае выступленьне перад пасламі. Сказаўшы аб сваім агульным паглядзе на задачы ўнутранае палітыкі ўраду, міністар прысьвяціў у канцы некалькі слоў меншасьцёвай палітыцы ўраду, асабліва — украінскай справе ў Польшчы.

Заявіўшы, што ўсялякія нарушэньні лёяльнасьці і легальнасьці з боку ўсякай партыі ці групы—бяз рожніцы нацыянальнасьці — ўрад будзе спыняць рэпрэсіямі, міністар сказаў, што — наадварот — ён лічыць разумнай іканешнай з дзяржаўнага пагляду палітыку задаволіваньня — ў меру магчымасьці — слушных гаспадарчых і культурных патрэбаў нац. меншасьцяў — пад варункам датрыманьня імі лёяльнасьці адносна да дзяржавы. У далейшай прамове міністар Перацкі дадаў, што, нажаль, ня ўсё украінскае грамадзянства аднолькава лёяльна да Польшчы, дый што гэта перашкаджае ўраду ў зрэалізаваньні яго найлепшых намераў у галіне падтрыманьня культурнага і гаспадарчага разьвіцьця ўкраінскага народу, прыняцьця на ўрадавыя пасады ўкраінскай інтэлігенцыі, дапамогі ўкраінскаму профэсыянальнаму школьніцтву і т. д. У канцы міністар заявіў, што ўкраінцам у Польшчы зусім ня так дрэнна жывецца, як яны скардзяцца на міжнародавым груньце. Так, у 1919 г. яны мелі толькі 570 кооператываў, а ў 1930 г. — звыш 3900. Моладзь украінская мае поўную свабоду вучыцца ў роднай мове, а „Просвіта“ мае звыш 3000 асьветных пляцовак. Так сама — ніякіх перашкодаў ня чыніць урад спортовым таварыствам украінцаў — пад варункам, каб яны не хавалі пад сваім шыльдам палітычных мэтаў...

П. міністру адказвалі ўкраінскія паслы: Матчак і Баран.—Яны заявілі, што паняцьце палітычнай лёяльнасьці залішне няяснае, таму ня можа быць палажана ўкраінскім грамадзянствам у падставу польска-ўкраінскіх адносінаў. Значна лепшым — бо-ж ясным і азначаным—зьяўляецца паняцьце права, закону, конституцыі. Прамова п. міністра дае пэўнае выражэньне чуткам аб „новым курсе“ адносна да украінцаў. Але ў лепшым выпадку яна зьяўляецца толькі тэорэтычнай дэкларацыяй, не пацьверджанай фактамі, не зрэалізаванай. У горшым выпадку — вельмі спрытнай ігрой, аблічанай на ўражаньне заграніцай — напярэдадні сэсіі Рады Лігі Нацыяў. Што датычыць тых гукаў пагрозы, якія чутны былі ў прамове міністра, дык іх цяжка зразумець, асабліва цяпер, калі ваявода Ружнецкі вядзе перагаворы з прадстаўнікамі ўкраінскага грамадзянства...

Падаючы гэтую цікаўную і характэрную дыскусію ў комісіі да ведама беларускага грамадзянства, можам толькі пажадаць большай шчырасьці ды станоўкасьці ў рэалізаваньні добрых намераў новага міністра, дый ня толькі адносна да ўкраінцаў, але і да беларускага народу. „Добрымі намерамі“, кажа ведамая прыказка, „пекла выбрукована“. А трэбаваньне ўраду ад меншасьцяў лёяльнасьці да дзяржавы ня можа быць аднастароньнім, бо-ж аднастароньняя лёяльнасьць без адпаведнае лёяльнасьці з боку дзяржаўнай улады адносна да меншасьцяў ёсьць унутраная суцярэчнасьць як у сэньсе моральным, таксама і дзяржаўным, — дый папросту ня можа мясьціцца ў паняцьці сучаснага прававога дэмакратычнага гаспадарства, пабудаванага на раўнавазе правоў і абавязкаў чалавека і грамадзяніна ў роўнай да ўсіх грамадзян дзяржаве. Таму найлепшай школай для ўзгадаваньня лёяльнасьці ў меншасьцяў можа быць толькі шчырая і срогая лёяльнасьць да іх з боку дзяржаўнай ўлады.

З асаблівым прызнаньнем з боку опозыцыі выслухана была заява мін. Перацкага аб тым, што — „у дзяржаве дэмакратычнай можна кожнаму грамадзяніну свабодна мысьліць, выражаць свой суд і дзеяць — пад варункам, што будзе выкладаць ды бараніць сваі пагляды розумам, не тасуючы гвалту, сілы і падступу“.

Гэтая заява міністра дае надзею больш вольнага жыцьця для мысьлі, слова і друку ў Польшчы.

Як пішуць польскія газэты, мін. Перацкі—прадугледжаны кандыдат на прэм'ера і мае ў блізкім часе заступіць п. Прыстора. Такім чынам — добрыя намеры новага кіраўніка польскай унутранай палітыкі маюць шырокія магчымасьці зьдзейсьніцца на дзеле.

Пачакаем — пабачым.

## Лепей позна, чым ніколі.

(*Да зьезду беларускае хадэцыі*).

Калі людзі памыляліся ў нечым, а пасьля, зразумеўшы сваю абмылку, шчыра прызнаюцца да яе і стараюцца яе паправіць, —дык у гэтым няма ніякага грэху, ані ганьбы. Горш, калі людзі да сваіх абмылак не прызнаюцца і стараюцца ўсіх пераканаць, што іх — не рабілі, а заўсёды былі бязгрэшнымі: тады іхняя „новая вера“ можа выклікаць пэўныя сумлівы...

Такія сумлівы выклікае найнавейшы курс беларускае хадэцыі ў пытаньні аб незалежнасьці і непадзельнасьці Беларусі, які вельмі шумліва абвяшчаюць сягоньня лідэры хадэцыі — акурат тыя, каторыя йшчэ ня так даўно пісалі і друкавалі рашучыя заявы проці незалежнасьці і проці цэласьці Беларусі. Гэтак, убіўшыся — дзякуючы цёмным інтрыгам — да рэдакцыі ўкраінскае часопісі „Новы Час“, беларускія хадэкі зьмясьцілі там рад стацей пад агульным назовам „З беларускага жыцьця“, якія цяпер перадруковываюць у „Бел. Крыніцы“, і ў гэтых стацьцях стараюцца даказаць заведамую ілжу аб тым, што яны заўсёды былі „незалежнікамі“ і ніколі не рабілі, не заяўлялі і ня пісалі нічога, што было-б нязгодна з асноўнымі пастановамі акту з 25 сакавіка 1918 году. Дык напомнім ім — гэтым лідэрам хадэцыі—факты, якіх запярэчыць немагчыма.

Перад усім ведама кожнаму, што ў акце абвяшчэньня незалежнасьці Беларусі 25 сакавіка 1918 году хадэкі ніякага ўчасьця ня прымалі, бо не ўваходзілі ў склад Рады Рэспуб

# Гаспадарчы аддзел.

## Разумна выкарыстайма вольны час.

У зімовую пару гаспадары звычайна маюць болей вольнага часу, чым калі-небудзь. Аднак гэты вольны час не заўсёды разумна выкарыстоўваецца, а часьцей прападае дарма. Зразумела, што марнаваньне часу наагул блага. Недарма кажуць: „час — грошы". Асабліва, пры сёняшнім эканамічным палажэньні вёскі марнаваньне часу зьяўляецца проста грэхам. Гаспадарчы крызіс, ахапіўшы ўсе галіны народнае гаспадаркі, найцяжэй адбіўся на сельскай гаспадарцы. Надламаў ён гаспадарчую сілу бяз розьніцы як дробных, так і буйных гаспадарак і хутчэй у большай меры ў астатніх, чым у першых.

Звычайна падчас ранейшых падобных с.-гаспадарчых крызісаў у Эўропе, дробныя гаспадаркі перамагалі ў канкурэнцыі над буйнымі, і плошча вялікіх двароў зьмяншалася. Такі працэс мусіў-бы адбыцца і ў нас, каб ня наша цемната і забітасьць. Там дробная гаспадарка ў часе крызісу выбірала праца-інтэнсыўны гаспадарчы кірунак. Збажовая гаспадарка мянялася на гадаўляную; заводзілася болей працаёмістых расьлінаў. Іначай кажучы, дробныя гаспадары так сказаць падвойвалі сваю энэргію.

Вось-жа з гэтых прычынаў і нам трэба вясьці сваю гаспадарку ў тым-жа кірунку. Ня можна і хвільку марнаваць часу, трэба ўсю энэргію скіраваць на падняцьце выдайнасьці свае гаспадаркі.

Цяпер, у зімовую пару, трэба вольны час скарыстаць на папаўненьне свайго сельска-гаспадарчага знаньня чытаньнем с.-гаспадарчых кніжак і журналаў; добра ўплянаваць ужо працу, якая пачнецца ад раньняе вясны і канчаецца позна восеньню, бо тады на гэта ўжо часу ня будзе. Рэшту-ж часу трэба заняць падрыхтоўчымі працамі да вясьнянага сэзону.

Ёсьць шмат працаў, якія, ня выкананыя зімою, у вялікай меры ўплываюць на паніжэньне ураджаяў. Тымчасам аб гэтых працах мала хто думае.

Возьмем хоць-бы гарод. Калі ў агародзе родзіць, то гаспадару ня трэба даводзіць, якая ад яго карысьць. На першы пагляд здаецца, што ўзімку аб гародзе няма чаго думаць, а ня то, што рабіць якую-небудзь гаспадарчую працу. Тымчасам запраўды справа стаіць зусім іначай. Узімку ня толькі можам абдумаць, чым лепей засадзіць агарод, але можам прыгатавацца да таго, каб мець раньнюю расаду. У нас звычайна запозна засаджваецца агарод. Сеецца расада, як зямля ўжо добра выгрэецца, а покуль расада вырасьце, гарод пустуе. Такім чынам траціцца шмат каштоўнага часу, калі ў глебе досыць вільгаці, якую расьліна можа добра выкарыстаць. Чым далей, тым вільгаці становіцца меней, а калі гарод яшчэ вясною гарэцца, то зямля высушваецца да пасадкі так, што спадзявацца на ўраджай няма чаго.

Аднак гэтай бядзе лёгка дапамагчы, калі аб гэтым загадзя падумаць. Калі ўзімку прыгатаваць вокны і ўкласьці парнікі (інспэкты) своечасна, то будзем мець расаду ўжо тады, калі яна звычайна ў нас пачынае расьці ў расадніку.

Апрача няўменьня вырашчваць гародніны, такое няўменьне назіраецца ў нашага селяніна і пры пасеве іншых расьлінаў. Возьмем для прыкладу бульбу. Калі пасеўны матэрыял бульбы мы загадзя ў цёплых памешканьнях выставім на сьвятло, то яна да пасадкі пусьціць расткі і, дзеля таго, хутчэй вырасьце і здымецца з поля. Пасьля раньняе бульбы ёсьць яшчэ магчымасьць засеяць якую-небудзь кармовую мешаніну. Знача, з аднаго поля і ў адзін год можна атрымаць два ўраджаі.

Апрача вышэйпералічаных і ім падобных працаў, узімку трэба заглядаць і на поле. Як часта на вясну селяніну даводзіцца аглядаць на сваіх азімых пасевах голыя лапіны, а то і цэлыя загоны, на якіх загінула озім. Гэтай бядзе можна перашкодзіць у вялікай меры ўзімку.

У сваім артыкуле мы закранулі толькі некаторыя, найбольш агульныя зімовыя працы, як прыклад. Калі-ж селянін добра разгледзіцца па сваёй гаспадарцы, то напэўна яшчэ знойдзе шмат працаў, якія, будучы выкананы зімою, прынясуць не малую карысьць гаспадарцы, і на якія забывацца нельга.

**С. А.**

## Лячэньне яшчура.

Яшчур—заразьлівая хвароба ў кароў. Пераходзіць таксама на сьвіньні і авечкі. Можа заразіць і людзей. Жывёла пры гэтай хваробе мала есьць, выгляд сумны. Нос сухі, скура гарачая. З роту выдзяляецца шмат сьліны. У роце знаходзяцца пухірчыкі з жоўтаю цечаю. Лячэньне вельмі труднае. Калі аб'явіцца гэтая хвароба, трэба зараз-жа хворую жывёлу адлучыць ад здаровае і дагляд за хворымі даручыць асобнаму чалавеку, які ўжо не павінен заходзіць у хлеў з здароваю жывёлаю, бо можа перанесьці хваробу.

Некаторыя гаспадары ў лячэньні яшчура спрабавалі такі спосаб: на звычайную бутэльку нафты давалі галоўку стоўчанага часнаку і, даўшы пастаяць дзень гэтай мешаніне, мазалі ёю хворай жывёле рот. Ад двух-трох такіх опэрацый—кажуць—хвароба праходзіла. Жывёлу, якая кульгала пры гэтай хваробе, абмывалі вадою, да якое дадавалася на вядро 4 лыжкі купароснае кісьлі (г. зн. сернае кісьлі ці купароснага масла).

---

ўладамі з тэй мэтай, каб дапамагчы польскім нацыяналістам у апалячваньні праваслаўных беларусаў, ужо наперад абвешчаных у сьпісах насяленьня за палякоў?

**— Яшчэ аб недарэчнасьцях Віленск. Радыё.** Зусім зразумела, што заценка пад назовам „Недарэчнасьці Віл. Радыё", зьмешчаная ў адным з апошніх нумароў „Беларускага Звону", выклікала абурэньне з боку „кіраўніка праграмаў" п. В. Гулевіча. Вось-жа ў радыёвай скрынцы № 183 гэты-ж п. Гулевіч, каб апраўдацца ад закідаў, яму зробленых, аб трактаваньні (хутчэй ігнараваньні) беларусаў,—карыстаецца вельмі няпрыгожым спосабам: бярэ і чытае нібы вытрымку з газэты, але так, каб надаць ёй від недарэчнасьці, а пасьля заяўляе, што газэта напісала „няпраўду".

Гэты паступак Віл. Радыё яскрава ільлюструе адносіны гэтае ўстановы да беларускае „меншасьці" (паводле польскай урад. статыстыкі — 1.600.000!); пры такіх варунках лічым бязмэтным весьці з ім палеміку на шпальтах нашае газэты. Аднак, з увагі на тое, што нашыя чытачы, а разам і радыёаматары, ня раз зьвярталіся да нас з запытаньнем, чаму беларуская прэса не парушала гэтага балючага пытаньня, — уважаем за патрэбнае прыпомніць, што летась увясну былі ў дырэктара Віл. Радыё прадстаўнікі беларускага грамадзянства, дамагаючыся ўвядзеньня „беларускае хвіліны". На гэта дырэктар вельмі ветліва адказаў, што гэта ад яго не залежыць, а зрэштай, каб беларусы на правінцыі сабралі 2.000 (дзьве тысячы) новых абонэнтаў, каторыя плацілі-б за карыстаньне радыё 6.000 зл. у месяц, (72.000 зл. у год!), дык мо' якіх 15 мінут у тыдзень удалося-б адваяваць...

Комэнтары да гэтае заявы хіба зусім лішнія!

# Корэспондэнцыі.

## Як адбыўся сьпіс у нас.

(Будслаў, Вялейскага пав.).

Апразу скажу, што такі сьпіс, які адбыўся ў нас—нікуды. Ніхто напэўна з статыстыкі нашага сьпісу не скарыстае, а калі і скарыстае, то тым гарэй для яго, бо будзе абдураны як найгорш. І гэта паміма таго, што сьпіс праводзілі ў нас перадусім розныя польскія „культуртрэгеры" — вучыцялі, аграномы і т. п. людзі, здаецца, адпаведныя, а тымчасам вынікі—дрэнь. Шовінізм натолькі засьляпіў іхнія вочы, што гэтыя „праваднікі культуры" на „крэсах" зрабіліся ў часе сьпісу якраз наадварот—найбольшымі пашыральнікамі цемры і маны. Ачадзеўшы шовінізмам, яны задавалі нашаму насельніцтву такія пытаньні, якіх ня было ня толькі ў сьпісовых аркушах, але на'т у сьпісовых інструкцыях. У нас—большасьць каталікоў, і вось іх зусім і ня пыталіся пра бацькаўскую мову, а пыталі: як молісься? Ну, ці-ж не насоўваецца тут польскі адказ: цо ма пернік до вятрака? Апрача гэтага было зроблена шмат надужыцьцяў, за якія варта-б было пацягнуць шмат каго з гэтых „культуртрэгераў" у суд, бо яны, ня гледзячы на выразную забарону, зьбіралі па вёсках людзей у адну хату і т. д. Дзівіліся нашы людцы яшчэ й таму, што ніхто ў нас не пабачыў аніводнага аркуша польска-беларускага. Пісалі-ж у газэтах і інструкцыях, што гэткія аркушы надрукованы для беларускага насельніцтва (таксама як п.-украінскія, п.-літоўскія і інш.). Дзе-ж іх падзелі? Мо адаслалі на Марс?!

**Будслаўскі.**

## Ашчаднасьць.

(З Горадзеншчыны).

Ня гледзячы на тое, што ў нас няма працы й заробкаў, ды прыходзіцца цярпець голад, навокал усюды расклейваюцца абвесткі з заклікамі, каб складалі грошы ў П. К. О. Але-ж у нас, у сялян, нямашака гэтых грошаў на тое, што дзеля адкладу, але навет на самае неабходнае да жыцьця. Дык хочацца на заклікі да ашчаднасьці адказаці вось-што:

З усіх канцоў, дзе толькі глянь,
Мы чуем кліч да нас, сялян:
„Ашчаднасьць!"

Як грошы ў касах будзем мець,
Загіне голад, холад, сьмерць...
„Зьбірайце!"

„Абывацелі голых мас!
„Нясеце грошы вы да кас,
„Складайце!"

„Мінуць гадкі два або тры,
„Буржуі будзеце! як мы —
„Багаты!"

— Грош да гроша класьць да кас —
Не для мяне, прашу я вас,
Заданьне.

Нам бульбу, хлеб трэба купляць,
Дык скуль-жа грошы тыя ўзяць?
Пытаньне.

Ану, спрабуйце, так, як я,
У голад, холад ды што-дня
Блудзіці.

А калі й хлеба ўжо няма,
Тады й казаці не пара:
„Шчадзіце!"

Паны! Замест казаць так нам,
Лепш бедным з помаччу людзям
Прыдзіце.

А як багаты будзем мы,
Складаці будзем, як паны,
У касу.

**М. Дурэйка.**

---

Рэдактар-выдавец: М. СІНЯУСКІ.

Друкарня Я. Левіна, Вільня, Нямецкая вул. 22